Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

19 сакавіка 2004 года

№ 12 (465)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года




Тэлетыдзень 18 з «Рэгіянальнай газетай»

## Навіны рэгіёну



### Мыюць і мятуць

СМАРГОНЬ. З панядзелка вуліцы райцэнтра падмятаюць 2 спецыяльныя трактары, а днём мыюць дзве машыны-вадавозкі. Так жыллёва-камунальная гаспадарка прыводзіць да ладу горад пасля зімы. Створаны і дзве брыгады, якія ачышчаюць лiўнёўкі, збіваюць ледзяшы.

Тарэса КУМІШЧА.

### Памятаюць

АСТРАВЕЦ. У чацвер астраўчане ўспаміналі імя свайго земляка – грамадска-палітычнага і музычнага дзеяча Альбіна Стаповіча. Вечарыну ў гонар А.Стаповіча наладзілі і ў Спондаўскай сельскай бібліятэцы.

Ірына РАБУШКА.

### Плакалі долары

ВАЛОЖЫН. Тры цыганкі разыгралі чарговы "спектакль" у вёсцы Агароднікі. Пакуль дзве жанчыны распытвалі на кухні гаспадыню пра жыццё і здароўе, трэцяя знайшла ў пакоі грошы. Ад 400 долараў застаўся толькі ўспамін.

Наталля ШТЭЙНЕР.

### «Кенгуру–2004»

МАЛАДЗЕЧНА. Больш сямісот маладзечанскіх школьнікаў прынялі ў чацвер удзел у Міжнародным матэматычным конкурсе "Кенгуру-2004". Праходзіў ён на базах Беларускай гімназіі і гімназіі №6.

Марына СЛІЖ.

### Застаўся без хаты

АШМЯНЫ. У ноч на 15 сакавіка згарэла хата і хлеў на хутары Талеі Крайванцаўскага сельсавета. Адзінокі пенсіянер, прапаліўшы ў печы, лёг спаць. Прачнуўся ў 3 гадзіны ночы ад трэску: гарэла гарышча. Да найбліжэйшага тэлефона — 7 км, да пажарных — 30 км. Пакуль пажарныя прыехалі — хата і хлеў згарэлі.

Святлана ЦІШКО.

### Раённы фэст

ВІЛЕЙКА. У Палацы культуры стартаваў раённы фестываль мастацкай творчасці навучэнцаў і школ "Сузор'е". Сёлета ён прысвечаны 60-годдзю з дня вызвалення Беларусі. Завершыцца фэст 25 красавіка гала-канцэртам. У суботу ў Палацы выступяць прадстаўнікі гімназій №1 "Логас", №2, СШ №1.

Ірына РАБУШКА.

### У здаровым целе

МЯДЗЕЛ. Праблемы здароўя, у тым ліку і духоўнага, абмяркоўвалі прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў, святары праваслаўнай і каталіцкай канфесій за «круглым сталом» 18 красавіка ў райвыканкаме.

Святлана ЦІШКО.



Пасля сёлетняй снежнай зімы жыхары нашага рэгіёну і ўвогуле Беларусі чакалі моцнай паводкі. Але час паказаў, што, акрамя з'яўлення лужаў у дварах, нічога страшнага пакуль не адбылося.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

# На Саракі – снег да ракі

**Крыгаход чакаецца сёлета напрыканцы сакавіка, у пачатку красавіка. Нацыянальная метэаралагічная служба папярэджвае: на большасці рэк вада выйдзе на пойму. Чакаецца падтапленне сельгасугоддзяў, асобных народнагаспадарчых аб'ектаў і населеных пунктаў. Ці закране водная стыхія наш рэгіён і як да яе рыхтуюцца?**

"Нягледзячы на тое, што запасы вільгаці вялікія,— расказвае начальнік Вілейскай гідраметэастанцыі **Вячаслаў Лапко**, — паводка будзе нязначная: вада паспявае прасочвацца ў глебу. У той жа час да выхадных паветра прагрэецца да 9-10 градусаў. І позняя вясна, якая прытрымлівае снег, можа стаць бурнай".

Самая ранняя паводка ў Вілейскім раёне была 18 лютага 1950 года, самая позняя 9 красавіка 1952-га. Тады яшчэ не было вадасховішча, якое стрымлівае вадзяны паток, і вада часам займала калгасныя палеткі, падыходзіла ўшчыльную да населеных пунктаў. Цяпер ніжэй плаціны падтапленняў не бывае.

"Культурна вядзе сябе, — гаворыць Вячаслаў Лапко, — і Вілія: У час веснавага разводдзя шкоды насельніцтву не прыносіць. Усе вёскі знаходзяцца ўздоўж яе правага берага, а ён высокі".

Цяпер на рэках Беларусі адбываецца павольнае разбурэнне льду. Пачаўся крыгаход на Шчары, некаторых участках Нёмана і Віліі, а асобныя ўчасткі рэк Лясная, Ясельда і наогул вызваліліся ад лёду. На Вілейскім вадасховішчы, возеры Нарач назіраецца суцэльнае ледзяное покрыва таўшчынёй 34-41 сантыметр.

На мінулым тыдні ў Вілейскім райвыканкаме адбылося пасяджэнне камісіі па паводцы. Прадпрыемству меліярацыйных сістэм даручана ачысціць каналы, у якія будзе сцякаць вада з палёў, адрэгуляваць засоўныя прыстасаванні, дарожным службам – узяць пад кантроль масты, дарогі раённага і нацыянальнага значэння і інш.

"У час сёлетняй паводкі, — гаворыць начальнік азёрнай станцыі "Нарач" **Васіль Цыляк**, — не будзе ніякіх ускладненняў і на Мядзельшчыне. Умерана цёплае надвор'е, што наступіла ў другой дэкадзе сакавіка, абумовіла марудлае расставанне снежнага покрыва. Вільгаць добра прасочвацца ў зямлю, таму вялікай вады не чакаем".

Аналагічны адказ даў газеце і інжынер інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Валожынскага райвыканкама **Станіслаў Прыёмка**. І ў той жа час зазначыў, што праблема гэта абмяркоўвалася на раённай камісіі па паводцы. Дадзены заданні прадпрыемству меліярацыйных сістэм, дарожным службам. На Сакаўшчынскім вадасховішчы, якое часам выходзіць з берагоў, устаноўлены кантроль за ўзроўнем вады.

Згодна з народнымі прыкметамі, на Саракі снег павінен пайсці да ракі. Па новаму стылю яны прыпадаюць на 22 сакавіка. Калі надвор'е, як і абяцаюць сіноптыкі, у выхадныя будзе цёплым, то да панядзелка ад снегу можа застацца адзін успамін.

Марына СЛІЖ.

### Без мікрафонаў

Упершыню з нотнай граматай будучы прафесар, кіраўнік галоўнага аркестра народных інструментаў Беларусі і рэктар Акадэміі музыкі пазнаёміўся ў 15 год. Аб гэтым ён расказаў землякам на канцэрце ў Вілейцы.

2-я старонка

### З лёгкай парай!

У Маладзечне для бамжоў створаны спецыяльныя ўмовы для мыцця ў адной з гарадскіх лазняў. Аднак яны туды так і не паспяшаліся.

3-я старонка

### Юбілей Ганны Новік



Ганна Новік была чалавекам-легендай. Такой і застаецца. Да юбілею паэтэсы і грамадзяніна.

8-я старонка

■ ЮБІЛЕІ

# Без мікрафонаў

**ВІЛЕЙКА. Без мікрафонаў даў канцэрт у мінулую суботу ў Вілейскім Палацы культуры Беларускі нацыянальны акадэмічны аркестр народных інструментаў імя Жыновіча.**

Гэта імпрэза стала першай ў шэрагу іншых, прысвечаных 50–годдзю мясцовай школы мастацтваў. Аркестр нярэдкі госць у Вілейцы. Ужо больш за 30 год яго ўзначальвае былы выпускнік гэтай школы прафесар **Міхаіл Казінец**.

Перад выступленнем калектыву Казінец выказаў падзяку гораду і віляйчанам за творчыя крылы, якія дала яму малая радзіма, паіменна ўспомніў сваіх настаўнікаў. Міхась Казінец прыйшоў асвойваць у школу музычную грамату пераросткам – 15–гадовым юнаком. І па яго прызнанні, даводзілася сядзець на занятках разам з іншымі першакласнікамі–сямігодкамі.



**Перад пачаткам канцэрта Нацыянальнага акадэмічнага аркестра народных інструментаў, прысвечанага 50–годдзю школы мастацтваў у Вілейцы. Выпускнік гэтай школы 1956–га года прафесар Міхась Казінец і сённяшні кіраўнік вучэльні Анатоль Шагаў.**

Фота Яўгені Манцэвіч.

На канцэрце гучалі народныя творы, творы сучаснай беларускай музыкі. Выступілі і спевакі опернай сцэны – студэнты Акадэміі музыкі, дзе наш зямляк Міхась Казінец працуе рэктарам.

Землякі ўшанавалі маэстра кветкамі, словамі падзякі. Гэта былі і проста гараджане, і дырэктар школы мастацтваў **Анатоль Шагаў**, і кіраўнікі раёна. Усе прызнаваліся ў павазе да ганаровага грамадзяніна Вілейкі па-беларуску. І толькі прадстаўніца сярэдняй школы №1, выпускніком якой з'яўляецца Казінец, і неадназова пра гэта падкрэсліваў са сцэны, гаварыла па-руску. На што прафесар заўважыў, што руская мова таксама прыгожая і добрая, але ён памятае часы, калі яго школа звалася беларускай, а школа №2 – рускай: "Дык няхай бы тая школа і заставалася рускай, а першая – беларускай, дзе жыве родная мова". Зала адгукнулася апладысментамі.

Наступным этапам святкавання юбілею школы мастацтваў стане канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага хору імя Генадзя Цітовіча, кіраўнік якога прафесар **Міхась Дрынеўскі** быў заўважаны і на канцэрце аркестра імя Жыновіча. Не дзіўна – Міхась Казінец сказаў гледачам, што яны сябры. Да таго ж дырэктар школы мастацтваў Анатоль Шагаў некалі працаваў у хоры імя Цітовіча канцэртмайстрам.

**Іван КАСЯК.**

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## І ні разу са смакам не з'еў...

Вясковы весялун і жартаўнік дзядзька Іван, разважаючы пра чалавечую сутнасць, неяк зазначыў: зварыць жонка булён – капусту хочацца. Згатуе капусту – так бы булёну з'еў. Семдзесят гадоў пражыў на свеце, а ні разу са смакам і не папалуднаваў. І такую рабў міну на твары, што людзі хапаліся за жываты.

Жонка яго, жанчына гаваркая і з выдатным пачуццём гумару, у даўгу не заставалася. Пагладваючы з загадкавай усмешкай на мужа, расказвала гісторыю ці то пра свайго дзеда, ці то пра бацьку, які, прыйшоўшы з бяседы дадому, заўсёды прасіў есці. Ды не абы чаго, а булёнчыку гарачанькага. Пакуль была маладзейшая, суджаная гэты здзек цярпела: перад тым, як ісці ў госці, спецыяльна варыла для яго булёнчык. А пасля – навучылася. Паставіць каструльку вады на пліту і, не чакаючы пакуль закіпіць, дадае туды жменю макароны, некалькі зваранных загадзя бульбін. Праз пяць хвілін забеліць варыва малаком ды мужу пад нос. А той сёрбае, толькі пырскі ідуць, яшчэ й нахвальвае. Маўляў, нічога смачнейшага на свеце не еў. Не ведаў ён, што бульбу жонка адбірала яму з чыгунка, у якім варыла свінням.

Дзед Іван смяяўся, а затым гучна, каб усе чулі, пытаўся: "Гэта пра мяне?" "Здурнеў, то пра майго тату", – у тон яму падпявала жонка і дзеці з пакоя.

Пра гастранамічныя густы можна спрачацца бясконца. Што ні чалавек, то свае схільнасці. Адны любяць сялёдачку з алеем і цыбуляй, другія паліваюць яе воцатам і пасыпаюць часнаком. Хтосьці можа кожны дзень есці макарону, а ёсць людзі, якія ў якасці гарніру прызнаюць толькі бульбу.

Асабіста я ведаю чалавека, які ні разу ў сваім жыцці не ўзяў у рот грэчневай кашы. А адна мая знаёмая есць алівкі толькі тады, калі нікога няма ў кватэры. І муж, і дзеці не могуць вынесці іх паху. Наш сваяк дзядзька Міша за свае восемдзесят гадоў так і не пакаштаваў сялёдку пад шубай. Лічыць, што салёная рыба і салодкія буракі несумяшчальныя. А ўсімі любімы салат "Аліўе" называе словам "сілос". Маўляў, намяшалі ўсялякай трасцы і ядуць.

Мае дзеці галосяць ад аднаго толькі позірку на марскую капусту, халадзец альбо смажаную пячонку. За атрутy ў доме і фасолевы суп, манная каша.

Дзесьці чула, што не любіць тую альбо іншую страву, садавіну, агародніну нельга. Да яе трэба проста прывыкнуць. Як прывыклі мы да кансерванай кукурузы, пра існаванне якой гадоў дзесяць-пятнаццаць таму многія нават і не падазравалі, аліўкаў, маслінаў, крэветак. Хаця, ці маю права гаварыць за іншых.



Разважала **Марына СЛІЖ.**

■ 25 САКАВІКА – ДЗЕНЬ ВОЛІ

## У гонар Наталлі Арсенневай

**МІНСК. На будынку Беларускай гімназіі ў Вільні будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар вядомай беларускай паэтэсы Наталлі Арсенневай. Пра гэта БелаПАН паведаміў аўтар памятнага знака, вядомы беларускі скульптар Алесь Шатэрнік.**

На дошцы, што мае форму паўавала, скульптар вывявіў паэтэсу ў беларускім нацыянальным касцюме. Злева ад яе — грак, які сядзіць на галінцы зацвітаючай вярбы. «Гэтыя дэталі надаюць сэнс усёй скульптуры, бо яны сведчаць пра надыход вясны, з якой звязана свята 25 сакавіка — Дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі», — сказаў А.Шатэрнік.

На памятным знаку таксама змешчаны надпіс на беларускай і літоўскай мовах: «У былой Віленскай Беларускай гімназіі ў 1919—1921 гг. вучылася выдатная беларуская паэтэса Наталля Арсеннева (1903—1997)».

Паводле слоў скульптара, дата адкрыцця помніка, створанага пры фінансавай падтрымцы былога міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі, будзе аб'яўлена дадаткова.

Разам з тым, як паведаміў БелаПАН вядомы беларускі пісьменнік Васіль Якавенка, створаны грамадскі аргкамітэт па ўвекавечанні памяці Н.Арсенневай. У склад аргкамітэта, паведаміў В.Якавенка, які ўзначальвае П.Краўчанка, увайшлі вядомыя дзеячы нацыянальнай культуры, у тым ліку Рыгор Барадулін, Лявон Баршчэўскі, Анатоль Белы, Анатоль Грыцкевіч, Сяргей Законнікаў, Мікола Лавіцкі, Георгій Ліхтаровіч, Леанід Лыч, Алена Макоўская, Фёдар Нюнька, Алесь Пашкевіч, Лідзія Савік і Алесь Цыркуноў.

Паводле яго слоў, акрамя памятнай дошкі паэтэсе на будынку Беларускай гімназіі ў Вільнюсе, плануецца ўрачыстае адкрыццё барэльефа Н.Арсенневай (аўтар Анатоль Крывенка) у сядзібе Музея выяўленчага мастацтва фонду Анатоля Белага ў горадзе Старыя Дарогі.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**



**Класік беларускай паэзіі Наталля Арсеннева ў 1940 годзе працавала ў вілейскай абласной газеце "Вілейская праўда", некаторы час жыла на радзіме мужа ў вёску Доры на Валожыншчыне.**

Фота з архіва "РГ".

■ НАВІНЫ

## «Беламу замку» быць

**МАЛАДЗЕЧНА. У папярэднім нумары наша газета пісала аб адмене фестываля сярэднявечнай культуры і музыкі «Белы замак-2004». Але, як паведаміў кіраўнік рыцарскага клуба «Ордэн Паўночнага Храма», які з'яўляецца арганізатарам фестывалю, Дзмітрый Нясцюк агенцтву БелаПАН, найбуйнейшы ў Беларусі штогадовы міжнародны фестываль сярэднявечнай культуры і музыкі пройдзе па запланаваным графіку — з 19 па 21 сакавіка.**

10 сакавіка арганізатарам пазванілі з Маладзечанскага Палаца культуры, дзе павінен быў праходзіць фестываль, і паведамілі, што ў адпаведнасці з указаннем кіраўніцтва Мінскага аблвыканкама мерапрыемствам не абдудзецца.

Паводле слоў Д.Нясцюка, яму з калегамі давялося прайсці больш за 10 інстанцый і трапіць да намесніка старшыні аблвыканкама **Леаніда Крупа**, каб дабіцца дазволу на правядзенне фестывалю. «Дазвол мы атрымалі толькі пасля таго, як змаглі даказаць, што не маем дачынення да прамоўтэра **Ігара Міхно**, які арганізаваў мінулым летам фестываль у Нясвіжы», — падкрэсліў Нясцюк. Нагадаем, што аблвыканкам палічыў, што леташні фестываль не быў арганізаваны на належным узроўні.

Удзел у сёлетнім фестывалі «Белы замак» возьмуць прадстаўнікі больш чым 60 ваеннагістарычных клубаў Беларусі, Расіі, Прыбалтыкі, Украіны і Польшчы. На мерапрыемстве будуць працаваць некалькі пляцовак, на якіх пройдуць турнір лучнікоў, рыцарскія бітвы, конкурсы сярэднявечнай моды і на лепшыя даспехі, паказальныя баі.

**Аддзел інфармацыі, БелаПАН.**

## Выбралі міс прыгажосць

**ВАЛОЖЫН. Конкурс "Міс прыгажосць 2004", у якім прынялі ўдзел прэтэндэнткі на гэты тытул не толькі з Валожына, але і з вёсак Доры, Пяршаі, прайшоў у райцэнтры.**

Прыгажуняй года названа юрыст РУП "Валожынскі жылкамунгас" Алена Прышчык.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## З адной зямлі

**ВАЛОЖЫН. З прэзентацыі кнігі "Памяць" Ашмянскага раёна вярнулася валожынская паэтка, ураджэнка Ашмяншчыны Валянціна Гіруць-Русакевіч, якой у гісторыка-дакументальнай хроніцы прысвечана некалькі старонак.**

Не абмінулі суседзі ўвагай і паэта Пятра Бітэля, бо Валожыншчына некалі ўваходзіла ў састаў Ашмянскага павета. А таксама ўраджэнца вёскі Дубатвы Ракаўскага сельсавета беларускага археолага, кандыдата гістарычных навук Эдварда Зайкоўскага. Адведзена ў кнізе месца і асобе ўдзельніка 11 алімпійскіх гульняў у Берліне (1936 год) Міхаіла Вярсоцкага, які ўваходзіў у склад польскай каманды па стральбе. Нарадзіўся ён у вёсцы Стайкі Валожынскага раёна, а жыў і працаваў на Ашмяншчыне.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска)
Кошт на месяц 2460 руб.

Падпішыся!




Індэкс 63369 (ведамасная падпіска)
Кошт на месяц 7380 руб.

■ МАХЛЯРСТВА

# Скупшчык чэкаў «Жыллё»

**МАЛАДЗЕЧНА. «Куплю чэкі «Жыллё». Дорага...», Кожны з нас сустракаўся, а, мо, і карыстаўся гэтай аб'явай са слупа або з той ці іншай газеты. 300 чалавек нашага рэгіёну дакладна карысталіся паслугамі маладзечанскага скупшчыка. На яго ўзбуджана крымінальная справа.**

Махляр, назавём яго Віталь, нідзе не працаваў ужо 5 год. Але ж якому маладому хлопцу не хочацца прыгожага жыцця. Вераснёўскімі днямі ён разгарнуў сваю справу. Ці, на мове супрацоўнікаў міжраённага аддзела фінансавых расследаванняў, Віталь пачаў ажыццяўляць незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць. Малады чалавек скупляў і перапрадаваў чэкі «Жыллё», папярэдне даўшы аб гэтым аб'яву ў мясцовыя газеты нашага рэгіёну. А таксама ездзіў па вёсках, хадзіў па вуліцах, прапаноўваў бабулям і дзядулям надзвычай выгадную здзелку. Увіце: пенсія ў пажылых людзей напачатку «прадпрымальніцкай дзейнасці» маладзечанца была 40-50 тысяч рублёў. За чэкі, якія большасць вяскоўцаў і не ведала куды прыладзіць, прапаноўваў 50-100 тысяч, з павелічэннем пенсіі — ўсе 200. Датаго ж пенсіянерам не трэба было асабліва займацца папяровай цяганінай. Дапамагалі знаходзіць «кліентаў» і сельсаветы... за шакаладку ці цукеркі. У ходзе следства высветлілася, што Віталь умудрыўся аформіць 8 фіктыўных дагавораў дарэння ад імя памерлых, недзеяздольных і асобаў, якія не прысутнічалі пры афармленні.

Здабытыя чэкі ён перапрадаваў маладзечанцам у 3-4 разы даражэй, яны былі патрэбныя для прыватызацыі жылля. У выніку малады чалавек скупіў-перапрадаў 279 чэкаў, аформіў 462 здзелкі куплі-продажу. І атрымаў 8 тысяч долараў чыстага даходу, чым нанёс урон дзяржаве ў асабліва вялікіх памерах. Віталь ведаў, што рана ці позна пападзецца. Бо дакументы, звязаныя з афармленнем чэкаў, праходзяць праз банк, дзе захоўваюцца 75 год.



**Больш за 300 чалавек былі падманутыя скупшчыкам чэкаў В. у Маладзечне. Аб'явы расклейваліся на слупах.** Фота ByMedia.Net

Маладзечанца абвінавачваюць па трох артыкулах Крымінальнага кодэксу.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

**Гэтыя гісторыі – не чарговыя анекдоты пра паліцэйскіх ці міліцыянераў, але дадуць фору любому анекдоту. Адна з гісторый адбылася ў Польшчы, другая – у нас.**

## Пераслаў

Паліцыянты з польскага мястэчка Гіжыцка атрымалі галоўнае сведчанне ў справе вытворчасці фальшывых грошай – пачак банкнотаў. Аднак, каб без усякіх сумненняў можна было сцвярджаць, якія з гэтых банкнотаў сапраўдныя, а якія – падробкі, трэба было іх даследаваць у лабараторыі галоўнага паліцэйскага ўпраўлення ў Варшаве. З Гіжыцка да Варшавы далёка, таму банкноты трэба было пераслаць туды. Такое заданне атрымаў ад свайго начальства участковы. І заданне выканаў без ваганняў. Пайшоў на пошту, падаў касірцы ўсе банкноты і пераслаў іх пераводам на паштовы адрас галоўнага ўпраўлення.

**Паводле www.sadurski.com**

## «Зняў пальчыкі»

"Гэта ж трэба было да такога дадумацца, — распякаў міліцэйскі начальнік участковага. – Увесь аддзел абняславіў. На ўсіх нарадах год цяпер будзем "наглядный агітацыяй", на прыкладзе якой станунць вучыць іншых, як рабіць нельга".

Участковы пераміналася з нагі на нагу, чырванеў, маўчаў. "Што ж ён такое зрабіў? — губляласяся ў здагадках я. – Ехаў нецвярозы на машыне? Пабіўся з суседам? Ударыў жонку?" А старэйшы па званні ўсё не сунімаўся: "Колькі табе гадоў? Тры? Пяць? Ты ў міліцыі працуеш – ці ў цырку? Чым ты думаў? Галавой, а мо, якім іншым месцам? Хацця яе ў цябе, відаць, зусім няма!".

"Нешта ўкраў, — падумалася пасля гэтых слоў мне. – Ці ж міліцыянер не чалавек? Аступіўся, пакваліўся на чужое. Думаў, раз у пагонах, значыць — не знойдуць. Аж бач, вышлі на след".

Праз пяць хвілін чырвоны, як вараны рак, участковы пакінуў кабінет начальніка. "Што ён зрабіў?" — адразу ж спыталася я. "Ат," — махнуў рукой той і пераключыўся на іншую тэму.

Сваю цікавасць задаволіла роўна праз пяць хвілін пасля таго, як выйшла з кабінета. Увесь аддзел абмяркоўваў навіну №1: участковы, выконваючы загад кіраўніцтва, замест адбіткаў пальцаў аднаго з раней асуджаных, што жыў на тэрыторыі замацаванага за ім сельсавета, зняў свае. Ну, не знайшоў ён яго, з'ехаў некуды чалавек. А тут "давай" ды "давай", базу спецыяльных дадзеных ці то ў вобласці, ці то ў раёне стварылі. Ці ж думаў ён, што тая мана калі-небудзь выпаўзе на свет. Аж бач, перастаўся!

**Ганна ВАСІНА.**

■ СЛУЖБА «01»

## Страты лічацца мільёнамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Падведзены вынікі супрацьпажарнага стану населеных пунктаў раёна за мінулы год. У адпаведнасці з палажэннем аб умовах і парадку агляду супрацьпажарнага стану жылых дамоў і населеных пунктаў, першае месца прысуджана Палачанскаму сельсавету, другое — Радашкавіцкаму пасялкоьваму, на трэцім месцы – пасёлак Чысць.**

У той жа час раённая назіральная камісія ўзяла на кантроль работу аналагічных камісій Гарадзілаўскага, Красненскага, Лебедзеўскага, Алёхнавіцкага сельсаветаў. Адзначыла нездавальняючую работу Гарадзілаўскага, Красненскага, Лебедзеўскага, Алёхнавіцкага, на тэрыторыі якіх "чырвоны певень" наведваўся адпаведна 7,13, 9,6 разоў.

З пачатку года ў раёне адбылося 85 пажараў, з іх 82 – у прыватным сектары. Страты ад іх склалі 235 мільёнаў 801 тысячу рублёў. Загінулі 16 чалавек.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Пройдуць вучэнні

**МАЛАДЗЕЧНА. 25 сакавіка, згодна з планам асноўных мерапрыемстваў функцыянавання гарадскога і раённага звенняў Мінскай абласной падсістэмы надзвычайных сітуацый і грамадзянскай абароны, у горадзе адбудуцца вучэнні.**

Адначасова будзе праведзена праверка сістэмы апавяшчэння з практычным запускам электрасірэн, гучнагаварыцеляў і радыётрансляцыйнай сеткі. Не пужайцеся, гэта толькі вучэнні.

**Маладзечанскі гаррайаддзел па надзвычайных сітуацыях.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА – У РЭГІЁНЕ І БЕЛАРУСІ

## Задушылі немаўля

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні на гарадскім сметніку бамжы знайшлі задушанае немаўля, дзяўчынку.**

Высветлілася, што яе прывезлі разам са смеццем, што збіраюць у раёне вуліц Талстога, Хмяльніцкага, Вялікага Гасцінца. Асобу маці ўстанаўліваюць.

## Скралі фрэзы

**МАЛАДЗЕЧНА. З вытворчага цэха таварыства «Скарпіён» выкралі фрэзы для апрацоўкі дрэва коштам каля 10 мільёнаў рублёў.**

Злодзей узламаў дзверы. Узбуджана крымінальная справа.

## Спужнуў зладзеяў

**МАЛАДЗЕЧНА. Двое незнаёмцаў зайшлі ў адчыненыя дзверы кватэры па вуліцы Гарадоцкай, 48, адкуль выкралі мабільны тэлефон і прадукты харчавання.**

Гаспадар, які ў гэты момант вярнуўся дадому, спужнуў злодзеяў. Група хуткага рэагавання затрымала іх. Адзін арыштаваны. Скрадзенае вернута гаспадарам. Узбуджана крымінальная справа.


ТДА «Мадія» патрабуецца
**электрык**
(будаўнічы) 4-5 разраду.
Маладзечна, вул. Галіцкага, 8
(1 паверх), тэл.: (01773) 63741, 63721.

**ТД «Аўтапрамрынак»**

**У продажы ёсць канфіскаваная маёмасць:**

Блокі фундаментныя:
ФБС 24-6-6, ФБС 24-5-6 .......40370 руб. за м³.
Пліты перакрыцця
ПК-33-15; ПК-36-15; ПК-48-15; ПК-30-15.
Станок такарны 16Д25 ............... 4560000 руб.
Цыркулярка ЦА-2 ............................ 169000 руб.
Станок для тарцоўкі ........................ 806490 руб.
Устаноўка для вытворчасці
плаўленых сыркоў......................... 20000340 руб.
Піларама Р-63 .................................. 2085000 руб.
Сушыльная камера (на дрывах) . 1226000 руб.

**Аўтатранспарт:**

ЗІЛ-130 (сед. цягач) ......................... 866880 руб.
ГАЗ-53 (фургон) ................................. 789785 руб.
Опель Кадэт (1986 г.в.) ................ 1250000 руб.
ЗІЛ-43141 (палівамыечная) ........ 2005000 руб.
Пагрузчык вілачны
(1991 г.в., Львоў) ............................ 6385000 руб.
П/прычэп МАЗ-93802 .................. 2369000 руб.
ГАЗ-53 (самазвал) ........................... 2800000 руб.
ЗІЛ-ММЗ-555 (самазвал) ............ 3300000 руб.

**Маладзечна, вул. Віленская, 40,**
**тэл./факс (01773) 71531.**


## Аўто разулі

**МАЛАДЗЕЧНА. Хтосьці зняў колы з "Аўдзі-80", якую гаспадар пакінуў на 3 тры дні па дарозе на Ілью.**

Узбуджана крымінальная справа.

## Каля Палаца

**МАЛАДЗЕЧНА. На аўтобусным прыпынку каля Палаца культуры трое невядомых пабілі мужчыну.**

Бойка адбылася без прычыны. Нарад «Ахова» затрымаў аднаго з хуліганаў.

## Не сябруюць

**МАЛАДЗЕЧНА. У адной з кватэр па вуліцы Міру выбілі шыбу на балконе і ў пакоі.**

Міліцыя мяркуе, што гэта адбылося на падставе асабістых непрыязных адносінаў кагосьці з гаспадарамі. Узбуджана крымінальная справа.

## Прачнуўся...

**МАЛАДЗЕЧНА. У п'янага маладзечанца, які заснуў на аўтобусным прыпынку, укралі пакет з відэаплэерам, касетамі, дакументамі.**

Злодзея — непрацуючага гараджаніна — затрымалі.

## Збілі гаспадара

**МАЛАДЗЕЧНА. Двое зайшлі ў кватэру, якая знаходзіцца ў Радашкавічах і пабілі гаспадара.**

Усе ўдзельнікі здарэння былі п'яныя. Адзін злодзей арыштаваны. Узбуджана крымінальная справа.

**Па зводцы гаррайаддзела ўнутраных спраў падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

## Не быць маёрам

**АСТРАВЕЦ. 4 гады правядзе ў месцах пазбаўлення волі капітан расійскай арміі Алег Весялоўскі.**

Да зняволення прыгаварыў яго нядаўна Астравецкі раённы суд за кантрабанду выбуховых рэчываў: летась у цягніку Санкт-Пецярбург—Калінінград спрабаваў правезці 11 траціламых шашак, 86 патронаў да аўтамата, дэтанатары і радыёвыбухоўку.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Абвінавачваюцца ў забойстве

**МІНСК. Слуханне крымінальнай справы ў дачыненні да двух, ужо былых, оперупаўнаважаных крымінальнага вышуку прайшло ў Мінскім гарадскім судзе. Яны абвінавачваюцца ў забойстве з асаблівай жорсткасцю і іншых злачынствах.**

У 2003 годзе п'яныя оперупаўнаважаныя, зайшлі ў кватэру, што карысталася рэпутацыяй прытону. У іх узнік канфлікт з кампаніяй нецвярозых мужчын. Госці збілі да смерці аднаго з іх.

## Выжыла

**ВІЦЕБСК. Выкінутая з 8-га паверха ў Віцебску жанчына атрымала лёгкія траўмы.**

Жанчыну выкінуў з акна 21-гадовы віцяблянін. Яго знаёмства з 40-гадовай жанчынай пачалося каля месяца таму. Тады хлопец запрасіў яе да сябе на кватэру. Раніцай убачыў, што разам з госцяй прапалі скураная куртка і грошы.

У выхадныя малады чалавек выпадкова зноў сустрэў старую знаёмую. Запрасіў яе да сябе дадому і ў часе п'янкі стаў патрабаваць вярнуць скрадзенае. Жанчына адмовілася, і тады хлопец папросту выкінуў знаёмую у расчыненае акно.

Медыкі канстатавалі ў пацярпелай траўму грудзей і чэрапна-мазгавую траўму, якія не ўяўляюць небяспекі для жыцця. Пасля падзення з 8-га паверха яна здолела апазнаць «кідальніка». У дачыненні да яго ўзбуджана крымінальная справа за замах на забойства.

**Паводле БелаПАН.**

## Сведкі, адгукніцеся!

ВІЛЕЙКА. На ўчастку дарогі Барысаў-Ашмяны, ля Крывога Сяла, 1 лютага адбылося дарожна-транспартнае здарэнне. Прыкладна ў 18 гадзін вадзіцель аўтамашыны ГАЗ-3110 збіў чалавека. Сведкамі аварыі маглі быць тры жанчыны, што ў гэты час ішлі з вёскі. Супрацоўнікі Вілейскага раённага аддзела ўнутраных спраў просяць іх адгукнуцца. Ад паказанняў будзе залежаць лёс вадзіцеля.

■ АДКРЫТЫ ЎРОК

# Курс на моду

## Нататкі з нагоды дня прыгажосці



Удзельніцы дня прыгажосці у Вілейскім ПТВ-200 з вядучым рубрыкі «Адкрыты ўрок» намеснікам дырэктара гэтага вучылішча Ігарам КІЦІКАВЫМ.

**Кожная жанчына хоча быць прыгожай. Гэта настолькі дакладна, наколькі і тое, што не кожнай жанчыне бог даў прыгажосць. Што ж рабіць тым, хто не зусім прыгожы?**

Раней бы сядзела такая дурніца дома і залівала б сваю хату горкімі слязамі. Зараз жа ў век навукова-тэхнічнага прагрэсу, калі нават прыгажосць пастаўлена на плынь, можна назіраць на ТБ, як стылісты за якія-небудзь дзве-тры гадзіны з "шэрай мышкі" робяць "белую лебедзь". "Але ж то ТБ,"- скажаце вы. Тыя, хто прыйшоў на дзень прыгажосці, які праводзілі цырульнікі і швачкі-навучэнцы ПТВ-200, зразумелі, што прыгажосць робіцца не дзе-небудзь у трыдзевятым царстве, а там, дзе жадаюць быць прыгожымі.

Для таго, каб стаць прыгожай, трэба трохі грошай на касметыку і тканіну, фантазія, каб прыдумаць нешта арыгінальнае, і смеласць, каб у гэтым арыгінальным выйсці ў людзі. А яшчэ – не забываць пра прыгажосць душы, бо злую прыгажуню ўсё роўна назавуць ведзьмай, а непрыгожую – мілай.

І напрыканцы невялікае апытанне сярод дзяўчынак – навучэнак ПТВ–200 (прафесія майстар-цырульнік і швачка-закройшчык). Якая прафесія вам падабаецца? З 52 апытаных 12 адказалі – цырульнік, 10 – швачка, 8 – мадэльер, 7 – стыліст, 5 – дызайнер, 3 – адвакат, 3 – доктар, 2 – настаўнік і 2 – псіхолаг. Такім чынам можна зрабіць вывад, што прыкладна для паловы вучняў вучылішча – гэта аэрадром, з якога дзяўчаты возьмуць курс на вялікую моду.



Адкрыты ўрок вядзе Ігар КІЦІКАЎ, kitikoff@tut.by.

■ РЭДАКЦЫІ АДКАЗВАЮЦЬ

# У пошуках жылля

**МАЛАДЗЕЧНА. У свае 24 гады Наталля Лабыш з Радашкавічаў мае мужа і чатырох дзяцей. Але гэтай немаленькай сям'і няма дзе жыць. Са сваім клопатам Наталля Лабыш звярнулася ў рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты".**

Калісьці галава сям'і Алег працаваў у калгасе, які сваім работнікам абяцаў даць кватэру. У яе чаканні сям'я жыла, па словах Наталлі, у памяшканні па вуліцы Трэцяга ліпеня, якое нагадвала склад: адной ў ложку, дзе спала дзіця, бацькі ўбачылі пацука.

Тым часам калгас перабудаваў частку дзіцячага сада пад жылы дом. Некалькі сем'яў нават засяліліся. Але да Лабышаў чарга не дайшла, ім кватэру не далі, як і тым, хто стаяў за імі ў чарзе. Зразумеўшы, што жылля не будзе, летам 2003 года муж Наталлі перайшоў на завод «Белмастацкераміка»: у калгасе яго больш нішто не трымала. Маладая сям'я задумала купіць прыватны дом. Знайшлі гаспадыню, якая згадзілася атрымаць грошы па частках. Першыя 200 долараў назбіралі і заплацілі. Але праблему «свайго гнязда» гэта не вырашыла: дзе ж цяпер узяць яшчэ 1300 долараў?

Сям'я спадзявалася на льготны беспрацэнтны крэдыт у «Беларусбанку». Але там ім адказалі, што на льготы яны разлічваць не могуць. Звярталіся Лабышы па дапамогу ў райвыканкам, напісалі, кажуць, 3 заявы. Але, па словах Наталлі, там у яе толькі спыталі, як яна збіралася гадаваць чатырох дзяцей, не маючы свайго жылля.

— Калі б у нас адразу нарадзілася дзяўчынка, было б адно дзіця, — сказала Наталля ў інтэрв'ю «РГ». — Але спачатку на свет з'явіліся 3 хлопчыкі.

Маладая мама лічыць, што раённая адміністрацыя можа дапамагчы атрымаць ільготны крэдыт або матэрыяльную дапамогу. Але вырашыць сваю жыллёвую праблему на месцы яна ўжо не спадзяецца:

— Калі паехаць у Мінск і скаргу на ўсіх напісаць, тады, напэўна, зрэагуюць.

Цяпер Алег прапісаны ў сваіх бацькоў, а жонка з дзецьмі — па вуліцы Трэцяга ліпеня, дзе сям'я жыла раней. У бацькоў мужа толькі двухпакаёвая кватэра, гэтай плошчы, па словах Наталлі, не хапае, каб мець агульную прапіску. Такім чынам па дакументах яны разам не жывуць і сумеснай гаспадаркі не вядуць — значыць сям'і няма.

На запыт «Рэгіянальнай газеты» старшыня Маладзечанскага райвыканкама Сямён Касабуцкі адказаў, што нічым дапамагчы не можа. Бо ў Радашкавічах, як і па ўсім раёне, сацыяльнае жыллё не будуецца, а вольнага добраўпарадкаванага жылля ў пасёлку няма. Да таго ж сям'я «на ўліку тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў па месцы жыхарства, а таксама па месцы работы не знаходзіцца. Таму прэтэндаваць на атрыманне сацыяльнага жылля і на ўступленне ў жыллёва-будаўнічы кааператыў не можа». Цікава, што не пазней чым у другім квартале гэтага года будаўнікі закончаць рэканструкцыю пад жылы дом таго самага дзіцячага сада, на жыллё ў якім Лабышы так спадзяваліся. Калі б Алег пачакаў яшчэ месяцаў 9—10, то, як сказана ў адказе райвыканкама, «меў бы магчымасць палепшыць жыллёвыя ўмовы ў 1-2 квартале 2004 года».

Пакуль што райвыканкам не можа нават хадайнічаць перад «Беларусбанкам» аб выдзяленні Лабышам ільготнага крэдыту. Таму што льготныя крэдыты «выдзяляюцца грамадзянам, якія стаяць на ўліку тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў». Раённая выканаўчая ўлада раіць Наталлі Лабыш звярнуцца ў пасялковы выканкам, сабраць неабходныя дакументы і стаць на ўлік.

Святлана ЦІШКО.

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Вэранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Вэранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Прыемныя былі балі трох студэнцкіх саюзаў — беларускага, украінскага й літоўскага. Заўсёды вельмі ўрачыста сьвяткавалі 25 Сакавіка — дзень абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Летам ладзілі зьлёты. Я была на зьлёце ў Наваградчыне й над Нарачай. Быў яшчэ зьлёт студэнтаў у Белавежы, але безь мяне.

Большасьць нашых студэнтаў не курыла й не піла гарэлкі. На вечарынах сьпявалі й танцавалі побач модных танцаў народныя, абавязкова лявоніху.

Сёньня многіх зь сяброў няма між жывымі. У час вайны немцы застрэлілі Адася Дасюкевіча, папулярнага сярод нас студэнта. Загінуў Валодзя Шавель. Памерлі на чужыне ў Амэрыцы Стась Грынкевіч і Віктар Войтанка. Многія страцілі жыцьцё й здароўе ў турме савецкай і на Сібіры. Рассыпалася наша сямейка па ўсім сьвеце. Найбольшая частка апынулася ў Амэрыцы, часьць знаходзіцца ў Аўстраліі, некаторыя прабываюць у Англіі й Францыі.

У 1939 годзе мела я здаваць усе экзамены й пачала сабіраць матэрыял да магістэрскай працы. У гэты час закруціла сабе галаву „Вярозкай". Вайна нас разлучыла. Лета 1939 года правяла я ў маёнтку на Віленшчыне, у якім вучыла дзяцей багатых людзей з Гдыні. Прабыўшы ў гэтым маёнтку больш месяца, паехала са сваімі вучаніцамі ў Варшаву. Першы раз тады ў жыцьці сваім пабачыла сталіцу Польшчы. Зрабіла на мяне вельмі вялікае ўражаньне. Можа таму, што затрымаліся мы ў багатай сям'і — прафэсара Палітэхнікі. З Варшавы паехалі мы ў Гдыню. Мела я там быць два тыдні, а была толькі адзін дзень. Ноччу разбудзілі нас бацька вучаніц абвяшчаючы, што пачалася вайна. Пачалі мы пасьпешна ўставаць і пакаваць рэчы. Паехалі назад у Варшаву. Інакш выглядаў цяпер горад. Панавала паніка. Перад крамамі стаялі людзі ў чэргах — рабілі запасы харчоў. Бацька маіх вучаніц прапанаваў мне ехаць зь імі на Вэнгрыю, але я не згадзілася й накіравілася ў Вільню, а адтуль у родны Будслаў. Пры мне прыйшла сюды Чырвоная Армія і ўстанавілася савецкая ўлада.

### Праца ў школе

Пачала я працаваць у будслаўскай школе. Са мной разам былі настаўнікамі Люня і Ірка Будзькі, а таксама настаўнічаў Ірын муж. Вучыць пачалі па-беларуску. Выкладала я беларускую й нямецкую мовы. Наканец вярнулася ў сваю родную хатку й сабрала сваю сям'ю ўвадно месца. Прыехаў Пётрусь з Латвіі, вярнулася з Лунінца Вэра, прыбылі Гэльця й Франак.

Вялікім ударам для нас у гады савецкай улады быў вываз дзядзькі Адольфа, брата таты, зь сям'ёй у Казахстан. Многа людзей нявінных тады вывозілі ў Казахстан ці далёкую Сібір. А вывазы гэтыя былі страшнай похаранай. Адрывалі людзей ад родных хат, ад роднага мястэчка й блізкіх сэрцу. Плакалі тыя, каго вывозілі, й плакалі тыя, якія асталаліся. Людзі страцілі спакой. Ніхто ня быў пэўны заўтрашняга дня. Найменшы шэлест за акном ці дзьвярыма выводзіў з раўнавагі. Забралі Лёньку — сына цёткі Гэлькі. Што некалькі дзён кагось забіралі. Ніхто ня ведаў за што. Людзі пачалі чакаць зьмены.

У школе працавала я шчыра. Усе свае маладыя сілы пасьвячала вучням. Спачатку жыла пры школе. Назначылі мяне дырэктарам школы й завучам. Выбралі дэпутатам у сельсавет. Мусела хадзіць па вёсках і аб'ясьняць канстытуцыю СССР, намаўляць людзей да працы пры будове аэрадрома, прымаць удзел у розных сабраньнях. Ніхто не ведае, што тады адчувала й зь якой ахвотай усё гэта рабіла! Трэба было. Не было іншага выхаду. Знайшла я час зарганізаваць танцавальны гуртох пры школе. Мае вучні здабывалі першыя ўзнагароды на абласных алімпіядах. Танцавалі лявоніху, юрачку, кадрыль, гапака. Прыязьнілася з Люняй. Зь ёй праводзіла кожную вольную хвіліну й тады пазнала, якая гэта вартасная й мудрая жанчына. Чуліся мы з сабою добра й гутаркам не было канца.

Прыйшоў 1941 год. Як гром з яснага неба пачулі мы вестку пра новую вайну.

Напярэдадні адступленьня саветаў выклікалі мяне ў сельсавет. Цётка дала мне хустку й параіла ўцякаць у лес. Цэлы дзень там прасядзела, а на ноч вярнулася. На другі дзень зноў выклікалі, цётка параіла прыкінуцца хворай і легчы ў пасьцель. Так і зрабіла. У гэты-ж дзень прыйшлі немцы. А тых, якія пайшлі ў сельсавет, расстралялі.

### Праца ў Менску

Прыйшлі немцы. Сям'я нашая зноў рассыпалася. Усе мы страцілі працу, знайшліся бяз сродкаў да жыцьця.

На пачатку верасьня 1941 г. вельмі актывізаваліся мясцовыя палякі, якія імкнуліся арганізаваць польскую школу.

Анеля КАТКОВІЧ.

Працяг будзе.

■ ВІЗІТ ДА ДОКТАРА

# Надзейна – толькі з мамай

У педыятрыі зноў з'явілася праблема. Мамы не выкарыстоўваюць адпачынак па догляду за дзіцем да 3-х гадоў. Наракаючы на матэрыяльныя цяжкасці, спяшаюцца вярнуцца на свае працоўныя месцы. Такія рашэнні не лепшым чынам адбіваюцца на здароўі іх дачок і сыноў.

Па дадзеных сацыялагічных апытанняў, у апошнія гады значна павялічылася колькасць людзей, што адносяць сябе па ўзроўні даходаў да сярэдняга класа. Расце сацыяльная праслойка паспяхова адаптаваных песімістаў, што ўсё яшчэ чакаюць выхаду краіны з цяжкага эканамічнага крызісу, і інфармаваных аптымістаў, якія адказнасць за сваё жыццё ўзялі на сябе.

Безумоўна, цяжка сёння жыць на адну заработную плату, палова якой у большасці жыхароў рэгіёну ідзе на аплату камунальных паслуг. Таму і спяшаюцца мамы як мага раней уладкаваць сваіх дзяцей у яслі, дзіцячыя садкі. Маўляў, дзве зарплаты — не адна, можна і харчавацца лепш, і за модай паспець. Усё гэта зразумела. Але ёсць у жыцці і іншыя каштоўнасці, якіх не вымераць ніякімі грашыма. Напрыклад, здароўе дзяцей.

Немаўляці лепш за ўсё з маці. Да яе яно прывыкае з першых дзён і вельмі нязручна сябе адчувае, калі іх разлучаюць. Нават у шасцімесячнага дзіцяці могуць назірацца парушэнні нервовай сістэмы і работы ўнутраных органаў пры непаладках у сям'і. А доўгі і пастаянны адрыў ад мамы фарміруе надалей страх, які блакіруе раскрыццё рэзерваў мозга.



Немаўляці лепш за ўсё з маці. Да яе яно прывыкае з першых дзён і вельмі нязручна сябе адчувае, калі іх разлучаюць.

Фота Petrosoft.

Вы задумваліся, чаму дзеці ў садках часта хварэюць? Таму што пасля перанесенай хваробы ў іх застаецца стойкі хваравіты ачаг узбуджэння ў кары галаўнога мозга. Яны разумеюць, што хвароба – гарант прысутнасці маці, з якой спакойна, надзейна, добра. Кашаль у дзяцей робіцца амаль што пастаянным і ўстойлівым да лячэння. Пры болях у жываце вядуцца беспаспяховыя пошукі глістоў і даюцца на "ўсякі выпадак" прэпараты. А праз тыдзень – тая ж карціна.

Страхі ранняга дзяцінства застаюцца на ўсё жыццё. Дзеці, якіх перадалі ў чужыя рукі і якія цяжка прывыкалі да выхавальнікаў, нянечак, растуць неспакойнымі, кволымі. А асабліва таленавітыя хлопчыкі і дзяўчынкі наогул схільныя да развіцця псіхасаматычных захворванняў. Таму, дарагія мамы, перш чым аддаць дзіця ў садок, добра падумайце, што ў жыцці важней: дабрабыт у доме ці здароўе дзіцяці? Той, хто сутыкнуўся з падобнымі праблемамі, вядома ж, "прагаласуе" за апошні варыянт. Ну, а для тых бацькоў, што яшчэ толькі вырашаюць лёс свайго дзіцяці, самы час падумаць.

**Аляксандр ГУЛАК, доктар.**

■ ПАРАДЫ ДОКТАРА

## Язва – абвастрэнні

**Язвеннай хваробе страўніка ці дванаццаціперснай кішкі ўласцівыя абвастрэнні ў вясенні і асенні перыяды.**

Нават тым, хто вылечыў язву, неабходна два разы на год праводзіць прафілактычнае лячэнне. Асабліва людзям з раз'язным характарам работы ці тым, хто працуе ў начную змену. Выкарыстоўвайце лекавыя травы: мяту, валяр'ян, сардэчнік (пустырник), шыпшыну, біялагічна актыўныя дабаўкі. Яны знізяць узровень спажываемых супрацьязвенных прэпаратаў. Практыкаванні Хатха Ёгі можа выконваць кожны – яны падтрымліваюць функцыянальны стан пазваночніка. Пры язвеннай хваробе адбываюцца змяненні ў грудных пазванках, што пагаршае нервовую рэгуляцыю ўнутраных органаў. Дыхальныя практыкаванні выконваюць функцыю масажа ўнутраных органаў. Эфектыўная рэфлексатэрапія (нельга выконваць у стадыі абвастрэння) у комплексе з іголкаўколваннем, электрапунктурай, мяккімі тэхнікамі мануальнай тэрапіі. Дапамагае кропкавы масаж кропкі цзусань-лі – яна ўказана ва ўсіх кнігах па масажу. Перад пачаткам курса рэфлексатэрапіі абавязкова парайцеся са сваім доктарам, бо пры хірургічных ускладненнях яна супрацьпаказаная. Важныя дыета, паўнацэнны сон, уменне адмовіцца ад алкаголю нават у малых дозах у перыяд абвастрэння. Добрая заходняя традыцыя, дзе кожны п'е са сваёй шклянкі і сваю дозу.

У сістэме псіхадухоўнага лекарства язвенная хвароба — вынік недараванай крыўды.

**Аляксандр ГУЛАК, доктар.**

■ НАШ ДОМ

# Нябачны вораг прытаіўся

### Экалогія жылля

Эколагі высветлілі, што жыхары буйных гарадоў, якія прывыклі наракаць на забруджанае паветра, з небяспекай сустракаюцца дома куды часцей, чым на вуліцах. Больш таго, у кватэры таксічных рэчываў выявілі ў 8 разоў больш, чым на вуліцы. Прычынай таму — газавыя пліты, сучасная мэбля з драўняна-стружкавых матэрыялаў, дываны з сінтэтычнага валакна, пральныя парашкі, пластык.

### Блакітны агеньчык

Уладальнікі электрычных пліт выглядаюць сапраўднымі шчаслівчыкамі ў параўнанні з тымі, у каго на кухні размясціліся газавыя. Ва ўмовах дрэннай вентыляцыі за час гарэння канфоркі ўтрыманне чаднага газу і двухвокісу азоту на кухні значна перавышае норму, дапушчальную на хімічных заводах! Калі няма магчымасці замяніць пліту на электрычную, увагу трэба звярнуць на выцяжку. Пастаянна яе прачышчаць, а яшчэ лепш – набыць электрычны паветраачышчальнік і ўстанавіць над плітой. У час прыгатавання ежы фортачку трэба трымаць адчыненай, а таксама не забывацца штодзённа праводзіць вільготную ўборку.

Нельга выкарыстоўваць пліту ў якасці абагрэву, калі на вуліцы холадна, а ацяпленне яшчэ не ўключана. Лепш разарыцца на новы абагравальнік, чым рызыкаваць сваім здароўем. Змагацца з газам можна і пры дапамозе пакаёвых раслін. Напрыклад, хларафітум, англійскі плюшч ці бамбукавая пальма ачышчаюць паветра лепш за любое тэхнічнае прыстасаванне.



**Самае небяспечнае месца ў кватэры – кухня, дзе ва ўмовах дрэннай вентыляцыі газавая канфорка падобная на хімічны завод.**

### Правер свой нос

Мы купляем шафы, сталы і полкі з ДСП (драўняна-стружкавых пліт). Выглядаюць яны сімпатычна і каштуюць нядорага, толькі вось здароўю такая мэбля наносіць шкоду. Як кажуць спецыялісты, ДСП – магутная крыніца канцэрагеннага фармальдэгіду, асабліва, калі яна зроблена з парушэннямі тэхналогіі. У гэтым выпадку фармальдэгід пачынае выдзяляць шкодныя рэчывы з велізарнай сілай. Асабліва небяспечныя яны ў першыя дні пасля пакупкі. У дзяцей нават можа ўзнікнуць алергічны насмарк ці павысіцца слёзавыдзяленне. Таму, перш чым набыць такую мэблю, эколагі раяць панюхаць яе яшчэ ў магазіне. Якасная пахне драўнінай, а не хіміяй.

### Пах паху розніца

Спецыялісты сцвярджаюць, што лепшы пах у доме – яго адсутнасць. Цяжка з імі не пагадзіцца. Тлустыя ліпкія пахі прыгатаванай ежы пранікаюць з кухні ва ўсе пакоі, пасцельная бялізна захоўвае водар пральнага парашку і г. д.

**Пазбавіцца ад пахаў увогуле – немагчыма, але скараціць іх шкоднае ўздзеянне можна. Для гэтага неабходна:**

— выкарыстоўваць толькі тыя пральныя парашкі, які пахнуць слаба, але прыемна;

— радзей кіпяціць бялізну на кухні. Старацца адразу ж выветраць пах шкодных мыльных раствораў;

— раніцай як мага больш пакідаць пасцель незапраўленай;

— трымаць дзверцы шафаў, дзе захоўваецца адзенне, незачыненымі, каб адзенне ветралася;

— пакласці ў пыласос, напрыклад, лупінку лімона альбо апельсіна, тады замест паху пылу ён будзе выдзімаць больш прыемныя пахі.

**Падрыхтавала Марына СЛІЖ.**

■ ПРАБЛЕМА

## Туберкулёз наступае

**МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе і раёне за апошнія тры гады павялічылася колькасць хворых на туберкулёз. За 2003 год работнікамі гарадскога тубдыспансэра зарэгістраваны 3 падлеткі, хворыя на туберкулёз. Звычайна выяўляюць аднаго ў 3 гады.**

«Гэта звязана з нашымі цяперашнімі ўмовамі жыцця. Туберкулёз — хвароба сацыяльная. Яна паказвае, як мы харчуемся, ці дастаткова ўжываем вітамінаў», — сказала загадчыца дыспансэрнага аддзялення гартубдыспансэра **Тамара Навіцкая** ў інтэрв'ю «РГ» па тэлефоне.

Дзіця нараджаецца без узбуджальнікаў гэтай хваробы. Яно заражаецца з цягам часу, найчасцей ад хворых людзей. Таксама можна заразіцца, спажываючы малако, мяса хворай на туберкулёз каровы.

Калі бактэрыі хваробы трапляюць у арганізм, не заўсёды развіваецца туберкулёз. Арганізм здаровага чалавека мае дастаткова сіл, каб супрацьстаяць інфекцыі. Але амаль усе дарослыя да 30 гадоў маюць яе ў арганізме.

Каб выявіць хваробу, дарослыя, пачынаючы з 17-гадовага ўзросту, праходзяць флюараграфічны агляд. А дзецям ставяць туберкулінавую пробу Манту. У інфіцыраванага дзіцяці на месцы ўвядзення туберкуліну праз пэўны час з'яўляецца пачырванелая прыпухласць. Гэта значыць, што яму трэба як найхутчэй абследавацца ў тубдыспансэры. Аднак за першы квартал гэтага года медработнікі не зрабілі ніводнай пробы Манту, хаця звычайна за гэты час яе паспявалі зрабіць 3 тысячам дзяцей: з апошняга квартала мінулага года ў горадзе няма туберкуліну. Беларусь закупляе яго на Украіне, а затым вакцына размяркоўваецца па абласных і раённых цэнтрах. Па словах доктара-імунолага дзіцячай паліклінікі **Марыі Байковай**, спецыялісты абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі на нарадзе медыкаў, што прайшла нядаўна ў гарадской бальніцы, сказалі, што туберкулін з'явіцца ў канцы сакавіка–красавіку.

Праблема яшчэ і ў тым, што туберкулінавая палачка (узбуджальнік хваробы) не адчувальная да нашых лекаў. З 40-х гадоў, па словах Тамары Навіцкай, новых лекаў не прыдумалі, а да старых узбуджальнік за столькі гадоў прывык. Таму цяпер, каб забяспечыць эфектыўнае лячэнне, назначаюць па 4-5 прэпаратаў адначасова. Дактары кантралююць дозы, каб не адбылося прывыкання.

Найчасцей хварэюць на туберкулёз асобы з аслабленым імунітэтам, які зніжаецца пры частых пераахаладжэннях, цукровым дыябеце, язвеннай хваробе, псіхічных захворваннях, а ў дзяцей пры ветраной воспе, каклюшы, адры (корь).

На сённяшні дзень у горадзе і раёне зарэгістраваны 581 хворы на туберкулёз, сярод іх 4 дзяцей і 4 падлеткаў.

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПАРТРЭТ

# Хобі журналісткі Цішко

**МАЛАДЗЕЧНА. Спаборніцтвы па лыжных гонках на прызы закрыцця сезона падвялі рысу пад афіцыйнымі стартамі гэтай зімы на новым стадыёне ва ўрочышчы Бярозавы Гай ля Маладзечна. Пераможцай на дыстанцыі 3 км сярод дзяўчат ад 18 да 30 гадоў стала журналістка з "Рэгіянальнай газеты" Святлана Цішко.**

Усяго ў суботу, 13 сакавіка, стартавала каля паўтысячы ўдзельнікаў з горада і раёна: ад першакласнікаў і да тых, каму за 50. Дыстанцыі для розных узростаў былі 1 км, 3 км і 5 км. Арганізатары падрыхтавалі для прызёраў каштоўныя ўзнагароды: рэчавыя (фены, тэрмасы, мазі, інш.) і грашовыя.

Святлане перамагчы, безумоўна, дапамог вялікі спартыўны досвед.

**— Летам ты перамагла ў спаборніцтвах па арыентаванні, цяпер – у лыжах. Адкак пачыналася тваё захапленне спортам з іншых відаў?**



**Журналіст "Рэгіянальнай газеты" Святлана Цішко перамагла ў гарадскіх спаборніцтвах па лыжных гонках на дыстанцыі 3 кіламетры ва ўзроставай групе да 30 гадоў.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

— Так, да 6 класа хадзіла на плаванне, а потым занялася лёгкай атлетыкай: бегам на сярэднія і доўгія дыстанцыі. Люблю тэхніку пешаходнага турызму.

**— Раскажы, які быў твой самы вялікі прабег? Не марафонскі.**

— На спаборніцтвах у Жодзіне – 20 км. Першы раз вельмі стамілася. А праз год як след падрыхтавалася і мела добры час. Цяпер мала трэніруюся. Хто яго ведае, магчыма, калісьці адважуся і паспрабую сябе ў марафоне.

**— Якое з практыкаванняў у тэхніцы турызму падабаецца?**

— Напэўна, тое, што складана атрымліваецца. Доўга не магла якасна зрабіць "маятнік", дзе трэба рукамі ўхапіцца за вяроўку, падкурчыць пад сябе ногі і пераскочыць на патрэбную адлегласць.

**— Хто перадаў табе захапленне спортам: бацькі, сябры, настаўнікі?**

— Псіхолагі сцвярджаюць, што задавальненне ад заняткаў спортам закладваецца ў дзяцей ва ўзросце 6-8 гадоў. Я ўспамінаю сябе малой, як мы з мамай аднойчы адправіліся катацца на лыжах, узяўшы з сабою ежу. У нас крыху засталося, і мы развешвалі бліны на дрэвах, каб імі ласаваліся вавёркі, птушкі. Мне гэта ўсё надта спадабалася. Потым мама адвяла мяне ў плаванне. Так што, думаю, – бацькі.

**— Спорт для цябе проста хобі, бо скончыла Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка, факультэт беларускай філалогіі і культуры. Пішаш у "РГ" на розныя тэмы, валодаеш шырокім кругаглядам. Што табе найбольш цікава, якія праблемы прыцягваюць увагу?**

— Надзвычай была на семінары, які мне спадабаўся. Там расказвалі, як правільна "падаваць" навіны. Хачу лепш разбірацца ў сферы камунальных паслуг. Гэтыя праблемы б'юць па кашальку кожнай сям'і, закранаюць любога чалавека.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, МІЖСЕЗОННЕ

# Новае праўленне ФК «Маладзечна»

**Федэрацыя футбола Беларусі паведаміла футбольным клубам расклад матчаў першай лігі.**

У стартавым туры 18 сакавіка (нядзеля) "Смаргонь" адкрые сезон дома матчам супраць рагачоўскага "Дняпра", а "Маладзечна-2000" паедзе ў госці да светлагорскага "Хіміка". У другім туры, хутчэй за ўсё 24 красавіка (субота), маладзечанцы прымуць смаргонцаў. Мяркуецца, што дамашнія матчы першага круга каманда будзе праводзіць у Чысці.

### Кантрольныя матчы

Маладзечна. СШ№5. Снег.

13 сакавіка. Маладзечна-2000 – ДЮСШ-2 (1987) 9:0.

14 сакавіка. Маладзечна-2000 – Смаргонь 0:2. Галы: Курак (37), Трындзюк (55).

### Маладзечанская «каманда»

Цалкам вызначылася структура кіраўніцтва ФК "Маладзечна-2000". Істотна абнавілася праўленне клуба. У яго складзе цяпер дзевяць чалавек. Старшынёй з'яўляецца **Уладзімір Каржоў**. Ён вядомы ў горадзе бізнесмэн, кіраўнік кандытарскай кампаніі. Яму ўдалося сабраць мясцовых спецыялістаў, якія амаль усё свядомае жыццё аддалі маладзечанскаму футболу.

Генеральны дырэктар **Уладзімір Галубко** (1956) некалькі гадоў займаўся камерцыйнымі справамі.

Пікам яго гульнявой кар'еры былі поспехі "Металурга" ў 1991 годзе: Кубак СССР сярод КФК, першае месца ў чэмпіянаце БССР, Кубак БССР. Пікам трэнерскай кар'еры было кіраванне "Маладзечнам" у некаторыя перыяды 1998 і 1999 гадоў.

Галоўны трэнер **Віталь Казак** (1969) туляў за клуб на працягу васьмі гадоў. Акрамя перамог 1991 года, мае дачыненне і да 4 месца ў чэмпіянаце Беларусі-1994/95, калі быў лідарам каманды. Правёў за клуб у вышэйшай лізе 183 матчы (лепшы паказчык), забіў 32 галы.

Трэнерскую кар'еру распачаў у міні-футболе, калі быў гуляючым трэнерам "Металурга-JP", які двойчы (сезоны 1999/2000 і 2000/01) займаў трэцяе месца ў чэмпіянаце краіны. З 2000 года працаваў трэнерам ДЮСШ. У 2003-м годзе быў гуляючым трэнерам "Забудовы" (ДЗ).

Трэнер **Аляксандр Гармаза** (1966) вядомы сваёй працай з юнакамі. Яго выхаванцамі з ДЮСШ з'яўляюцца Карыцька і Макрыцкі. Узначальваў "Маладзечна-96" у чэмпіянаце вобласці, "Забудову" ў другой лізе, дубль "Маладзечна-2000". Лепшае дасягненне – 7 месца чысцінцаў у адной з груп другой лігі ў 1998 і 1999 гадах. Яму належыць значная роля ў выкананні задачы па захаванні месца ў вышэйшай лізе 2002 года.

Трэнер–гулец **Аляксандр Вяжэвіч** (1970) быў лепшым футбалістам каманды ў 1991 годзе, гуляў у Маладзечне да 1994-га ўключна і ў 1996-м, калі забіў за сезон 20 галоў. У суме правёў 114 матчаў, забіў 40 галоў (лепшы паказчык). Шмат пагуляў у іншых беларускіх клубах, Расіі, Кіпры. Пікам кар'еры стаў навапарскі "Чарнамарац" (1997; 9 матчаў, 1 гол), які быў 6-м у вышэйшай лізе Расіі. Правёў 1 матч за зборную краіны.

Начальнік каманды **Канстанцін Харламаў** (1953) трэніраваў і дарослыя каманды, і юнакоў. Яго лепшым выхаванцам з'яўляецца Вяжэвіч. Пікам трэнерскай кар'еры стала праца з "Маладзечнам" у стартавых турах чэмпіянату 1994/95, а ў папярэдніх сезоны ён асістраваў галоўнаму трэнеру.

Што тычыцца арганізатарскіх здольнасцяў, то яму належыць значная роля ў поспехах "Металурга-JP" у міні-футболе.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ КІНО

# «Каманду» пакажуць не хутка

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінулым летам гарадскі стадыён стаў здымачнай пляцоўкай для расійскай кінематаграфічнай групы. Яна па заказу тэлекампаніі РТР працавала над 12-серыйным фільмам пад рабочай назвай "Каманда".**

Сюжэт гісторыі немудрагелісты. Правінцыяльны расійскі футбольны клуб трапіў у крызісная турнірнае становішча. На пасаду галоўнага трэнера прыходзіць новы спецыяліст. Яго ролю выконвае вядомы беларускі акцёр **Уладзімір Гасцюхін**. За кароткі час гульня каманды мяняецца ў лепшы бок, яна паспяхова выступае ў кубкавым розыгрышы – даходзіць да фіналу. У серыяле перыпетыі спартыўнай барацьбы накладваюцца на жыццёвыя лёсы герояў (сярод акцёраў нямала знаёмых па іншых работах), таму дадаюць і каханне і іншае.



**Кінаакцёр Уладзімір Гасцюхін асвоіў ролю футбольнага трэнера**

Фота www.peoples.ru

Стваральнікі тэлегісторыі абралі Маладзечна таму, што ім спадабаўся мясцовы стадыён, які пасля рамонту набыў прывабны выгляд. Яшчэ здымкі праводзіліся ў Мінску і Маскве. Дарэчы, прадзюсеры стужкі – масціты "воўкі" кінавытворчасці, таму як рэжысёрам выступіў дэбютант.

Многія гараджане былі занятыя ў масавых сцэнах на трыбунах, так што можа з'явіцца магчымасць пабачыць на тэлеэкране і знаёмых людзей, і знаёмы кутачак горада. Да таго ж, здымаліся ў фільме некаторыя мясцовыя гульцы і суддзі.

У аддзеле грамадскіх сувязяў РТР на наш запыт паведамілі, што здымачны перыяд пакуль працягваецца. Дасведчаныя ў кінасправах асобы з "Беларусьфільма" лічаць, што серыял можа выйсці на экран бліжэй да пачатку наступнага года.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

## Фаварыты – з рэгіёну

**МАЛАДЗЕЧНА. Фінальны турнір чэмпіянату вобласці праўшоў у зале ЗМК 12-14 сакавіка. Як і на абласным Кубку месяц назад, зноў не было роўных маладзечанцам.**

Большасць іх складу – гэта футбалісты, што цяпер рыхтуюцца да сезона ў вялікім футболе. Лепшым гульцом турніру стаў **Мікалай Татун**, а найбольш галоў (8) забіў **Дзмітрый Вышынскі**. Выдатна выступілі вілейчане, якія ўпершыню заваявалі другую пазіцыю. Лідэры іх калектыву: **Валерый Губіч, Аляксей Парасунька, Алег Гулевіч.**

1. Маладзечна ............ 15
2. Вілейскі раён ............ 12
3. Барысаў ............ 9
4. Смалявіцкі раён ............ 4
5. Старадарожскі раён ............ 2
6. Нясвіжскі раён ............ 2

Гаспадары перамаглі працоўнікаў, якія размясціліся ў табліцы ніжэй, адпаведна 9:2, 11:2, 5:2, 9:2, 4:2, а вілейчане – 5:4, 4:0, 10:4, 2:1.

**СМАРГОНЬ. Чэмпіянат раёна праходзіў у спарткомплексе "Юнацтва" на працягу месяца.**

Выступілі 15 каманд. Спачатку яны згулялі па крузе ў трох групах. Адтуль па двое лепшых выйшлі ў фінальную шасцёрку. У выніку прызёрамі ў наступным парадку сталі: "Надзея", "Шанс" і ДЮСШ-87.

Лепшымі былі прызнаны варатар **Віктар Дамуць** (Шанс), абаронца **Віталь Навіцкі** (Надзея), нападаючы **Павел Шутовіч** (Шанс), трэнер **Віктар Страшынскі** (ДЮСШ-87), прадстаўнік каманды **Уладзімір Бацько** (Шанс), суддзя **Уладзімір Гарлуковіч**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

**Юнацкая зборная краіны (1986 г.н. і меншыя), якая ўвосень стартуе ў адборачным турніры да чэмпіянату Еўропы, правяла падрыхтоўчы збор, на які былі выкліканы былыя выхаванцы рэгіянальных ДЮСШ смаргонец Ковель і маладзечанец Асіповіч.**

Згуляны кантрольныя матчы ў Ізраілі і Турцыі. Ковель у Турцыю не ездзіў, бо яму лепш прайсці падрыхтоўку ў складзе мінскага "Дынама".

**01.03. Ізраіль 2:5.**

Ковель правёў увесь матч і забіў гол, адкрыўшы лік на 3 хвіліне. Асіповіч выйшаў на замену на 71 хвіліне пры ліку 2:4.

**03.03. Ізраіль 1:2.**

Асіповіч і Ковель правялі ўвесь матч.

**09.03. Турцыя 1:1.**

**11.03. Турцыя 0:0.**

Асіповіч правёў цалкам абодва матчы.

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**Першынство краіны сярод юнакоў і дзяўчат 1987-1988 г.н. прайшло ў Брэсце 9-11 сакавіка.**

Дзве ўзнагароды здабыў Дзяніс Краўчук, які родам з вёскі Жодзішкі Смаргонскага раёна, а цяпер вучыцца ў абласным ВАРы. Ён у хадзе стаў сярэбраным (5 км) і бронзавым (2 км) прызёрам.

Маладзечанка Алёна Семкіў заняла трэцяе месца ў бегу на 1500 м з перашкодамі.

■ БОКС

**МАЛАДЗЕЧНА. Выхаванцы трэнера Аляксея Асанава выступілі на спартакіядзе школьнікаў 1988-1989 г.н., прысвечанай 60-годдзю вызвалення Беларусі.**

Спаборніцтвы адбыліся ў Гомелі 9-14 сакавіка. **Павел Панкоў** (СШ№2) заняў другое месца і выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС

**МЯДЗЕЛ. Спаборніцтвы сярод школ горада і раёна прайшлі 10 сакавіка.**

Пераможцамі ў сваіх групах сталі Лук'янавіцкая базавая школа, Осаўская сярэдняя школа і Мядзельская сярэдняя школа №1. У асабістым заліку перамаглі **Кацярына Комар** (Осаўская СШ) і **Максім Нагела** (Мядзельская СШ №1).

**Святлана ЦІШКО.**

